# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Рэгістрацыя жыхароу места** у 2-х тыдневы тэрмін у паліцэйскіх вучастках, як мы даведаліся, мае сваей мэтай выявіць у апошні лік безработных элементау.

**Польскае Гандлева-Прамышленае Т-во** у Менску у хуткім часе адчыняе свае чыннасьці. Статут т-ва пададзены на зацьвярджэньне. Т-во мае нарыхтаваць зьвязі з заграгічным! і польскімі фірмамі і злучыць усіх мясцовых гандляроу—палякоу.

**Дэлегацыя жыдоускай абшчыны** была апошнімі днямі у начальніка штабу капітана Вінчэускага, катораму апавядала падробнасьці сумных здарэньняу за апошніе дні. Капітан Вінчэускі заявіу, што яму вядомы выпадкі грабежствау і нападау, што на этапным пункце знаходзяцца некаторые недысцыплінованые часьці, каторые цяпер будуць вывезены з горада. Дзеле павялічэньня ахраны горада выкліканы новы атрад жандармэрыі. Па вечарох у горад будуць высылацца патрулі. Салдатам будзе забаронено выходзіць у горад без дазволу. Капітан Вінчэускі прасіу дэлегацыю супакоіць насяленьне Менску, абяцаушы, што хутка будуць прыняты самые строгіе меры дзеля спыненьня грабяжоу і гвалтау.

**Менская консэрваторыя** арганізавала рад концэртау клясычнай музыкі. Концэрты адбываюцца пры тлумачэньні прафэсароу.

**На почце** за апошні час адтрымана шмат пасылак і грашовых пераводау з Польшчы, Амэрыкі і Нямеччыны для мястовых жыхароу.

У Менскай пачтовай канторы прыем пасылак і грашовых пераводау накуль яшчэ не адбываецца.

**Пасылкі з-заграніцы**, глауным чынам аптэкарскіе тавары, пачалі прыбываць у Менск. Пасылкі прыбываюць вельмі акуратна.

**У Менскім адрэсным стале** плата за справку—1 руб.

**Харчовые справы**, з прычын спыненьня пасажырскага руху, так наладзіліся апошнімі днямі, што цэны на усе прадукты, апрача хлеба, заметна пачалі падаць.

**Воінскіе пасты** на акраінных трактах наладжываюцца гэтымі днямі, дзеле змаганьня з зладзействам і грабежствам, праверкі дакумэнтау праяжджаючых і г. д.

**Іпотэчны аддзел** пры акружным судзе дзеле пацьвярджэньня крэпасных актау уладжываецца каля 20-га сьнежня.

**Цэнтрабелсаюзам** прадаюцца насяленьню на Бабруйскай вул. дровы па даступнай цане,

Мае прыбыць новая партыя.

**Польская краевая каса** разьмяняе усім па пашпарту 100 мар. на асобу на 3 дні.

**Часовая мястовая рада у Менску**, подлуг апошніх офіцыяльных вестак. мае быць адчынена 15—20 сьнежня

**Чарговы зьезд павятовых стараст** адчыніуся 8-га сьнежня.

Глауные пытаньні—харчовые справы; даклады з месц аб выбарах у мінуушую выбарную кампанію у магістраты округу.

**Тэлеграф** апавяшчае, што з 10-га гэтага сьнежня у цэнтральным тэлеграфе на Францішканскай (Губэрнатарскай) вул. д. № 34 пачынаецца прыем прыватных тэлеграм.

**На біржы** у зьвязі з прыастаноукай руху чыгункі, цяпер супакой. Зьдзелак вельмі мала. На польскіе маркі, думкі і керэнкі няма ніякага спросу. У большым спросе і высокай цане нямецкіе маркі і аустрыйскіе кроны. За 1000 нямецкіх мар.—1450—1500 польскіх. За 100 крон—55—60 польскіх мар. Усе даражэець золато і серабро. 100 польскіх марак—75—80 рублеу.

**Рух цягнікоу** у поуным абхваце адновіцца ад 15-га сьнежня.

**Хлеб**, з прычын таго, што спыніуся падвоз мукі, падаражэу да $3^{1}/_{2}$ руб. за фунт.

**На рынку** у панядзелак, 8-га сьнежня, цэны былі вось якіе:

Малако—5 р. кварта, сало—20 р. ф., каубаса—16 р. ф., мясо—$7^{1}/_{2}$ р. ф., дровы бяроз.—250 р. воз, масло—25 р. фунт, сьмятана—14 р. кварта.

*Рэдактар-выдавец*

*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



З дазв. вайсков. цэнзуры № 41, 10/XII.

Менск. Друкарня Інвалідау,